В І Ц Е Б С К А Я
# ТРЫБУНА

TV
Праграма
Навіны
Падзеі
Парады
Гараскопы
Анекдоты
Сканворды

№ 4, субота, 17 лістапада 2001 года. Выдаецца з кастрычніка 2001 года. Выходзіць штотыднёва. Заснавальнік ГА «ЦМІ «Контур». Каштуе 60 руб.

Photo IREX\ProMedia



# Прадразвёрстка

ст. 3

## Весткі

**Не паспелі прайсці і два тыдні пасля таго, як узраслі тарыфы на праезд у міжгародніх і прыгарадных аўтобусах, як падняўся кошт на праезд у гарадскім транспарце.**

З 14 лістапада адна паездка каштуе ўжо не 60, а 80 рублёў. Здаецца, 20 рублёў — не грошы, але ў наш час і такая дробязь не лішняя.

• • •

**У Паставах прайшоў рэспубліканскі Дзень арганізатара аховы здароўя. На ім абмяркоўваліся праблемы ўдасканалення гаспадарання сістэмы аховы здароўя.**

Месцам правядзення мерапрыемства Паставы выбраны не выпадкова. У сістэме Пастаўскага тэрытарыяльна-медыцынскага аб'яднання працуе 839 чалавек, з іх 87 урачоў, якія абслугоўваюць 47 тысяч 100 жыхароў раёна. Менавіта на прыкладзе работы аб'ектаў аховы здароўя гэтага раёна найбольш выразна можна прасачыць асноўныя тэндэнцыі, што наметіліся ў выніку ўвасаблення эксперымента, які ажыццяўляецца з 1 студзеня ў нашай вобласці. З пачатку года тэрытарыяльнамедыцынскае аб'яднанне працуе ва ўмовах эксперымента па выпрацоўцы новага механізма гаспадарання сістэмы аховы здароўя, як базавая ўстанова.

Удзельнікі мерапрыемства наведалі Пастаўскую цэнтральную раённую бальніцу і Навасёлкаўскую ўрачэбную амбулаторыю. У канцы пасяджэння прынялі выніковую рэзалюцыю, затым удзельнікі рэспубліканскага Дня аховы здароўя працавалі па спецыялізаваных секцыях.

• • •

**12 лістапада каля крыжа, усталяванага на месцы забойства Іасафата Кунцэвіча, гарэлі свечы і гучала шчырая малітва.**

Ушанавалі памяць адэпта беларускай уніяцкай (грэка-каталіцкай) царквы сябры арганізацыі «Малады Фронт». Як вядома, 12 лістапада 1623 г. архібіскуп Полацкі І. Кунцэвіч быў жорстка забіты праціўнікамі саюзу праваслаўнай і каталіцкай царквы.

Сучасныя гісторыкі лічаць, што уніяцкая царква была сапраўды народнай. Яна аб'ядноўвала большасць хрысціянскага насельніцтва і, галоўнае, культывавала беларускую мову.

Для маладафронтаўцаў стала ўжо традыцыяй штогод прыходзіць у гэты дзень на месца даўняй драматычнай падзеі на Успенскай горцы.

• • •

**У межах тыдня Міжнароднай адукацыі ў інтэрнэт-цэнтры бібліятэкі ім. Леніна 14 лістапада для студэнтаў віцебскіх вузаў была арганізавана гутарка на тэму: «Жыццё і вучоба ў амерыканскім універсітэце».**

Перад моладдзю выступілі выкладчык кафедры хіміі ВДУ Уладзімір Слабін і студэнт Інстытута сучасных ведаў Аляксандр Шарф. Яны шмат распавялі пра «асаблівасці амерыканскай нацыянальнай адукацыі», бо ў свой час прайшлі навучанне ў ЗША. Напрыклад, прысутныя даведаліся пра тое, што амерыканскі студэнт можа свабодна прыйсці на лекцыю ў шапцы, што ў штатаўскіх універсітэтах у значна большай пашане спорт, чым дыскусіі на занятках, што там нерацыянальна харчуюцца, і таму ў Амерыцы столькі поўных людзей, і інш.

Падчас сустрэчы дэманстраваліся відэаролік і фотаздымкі.

## УВАГА!

З пачатку лістапада рэдакцыя абвяшчае конкурс. Калектыў шапіка «Саюздруку», які прадасць найбольшую колькасць «Віцебскай трыбуны», будзе адзначаны каштоўным падарункам.

**Прыз гэтага месяца — шыкоўны насценны гадзіннік!**

ПРАБЛЕМА

# Продразвёрстка

**На паседжанні аблвыканкама было прынята рашэнне забараніць вываз малака і мяса за межы Віцебскай вобласці і ўвоз на яе тэрыторыю гарэлкі.**

Неўзабаве пасля нарады ў Наваполацку з удзелам А.Лукашэнкі адбылося паседжанне Віцебскага аблвыканкама з разглядам пазачарговага пытання «Аб мерах па выкананні важнейшых параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця вобласці за 2001 год». І старшыня аблвыканкама Ул.Андрэйчанка, і яго першы намеснік П.Драздоў сышліся ў думцы, што становішча ў эканоміцы вобласці склалася надзвычайнае, і праілюстравалі гэта дастатковай колькасцю фактаў.

Так, палова прадпрыемстваў па вытворчасці не выйшла нават на паказчыкі мінулага года. «Віцьба», «КІМ», механічны завод, фабрыка мэблі, «Віцебскія дываны»... Не лепшае становішча і ў Воршы, Полацку, Наваполацку, шэрагу раённых цэнтраў.

Пра стан сельскай гаспадаркі на Віцебшчыне — размова асаблівая. Ні зерне, ні бульба не парадавалі ўраджайнасцю. У жывёлагадоўлі — суцэльны парадокс: нарыхтоўка кармоў расце, а надоі малака і прыбаўленне жывёлы ў вазе памяншаюцца.

Варта зазначыць, што ад сумных паспавядаў пра тое, як дрэнна мы жывём, паседжанне перайшло да двух засуёдных пытанняў: «Хто вінаваты?» і «Што рабіць?»

Першае пытанне асабліва востра паставіў старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь В.Папоў. Ён дужа здзівіўся, чаму пры такіх абставінах выканкам не прапануе вызваліць ад займаемай пасады «хоць кагосьці з вінаватых». Трэба думаць, дзеля постраху іншым. Намесніку аблвыканкама П.Драздову паджэнтэльменску паабяцаў, што ў выпадку, калі становішча не выправіцца, сыдзе сам. А надалей перад удзельнікамі нарады былі пастаўлены катэгарычны загад: за два месяцы выйсці на вызначаныя на пачатку года паказчыкі. Ні больш, ні менш. Дадатковы план вырабу прадукцыі даведзены літаральна кожнаму прадпрыемству са штодзённым дакладам кіраўніцтву пра яго выкананне і жорсткім кантролем. Такая вось шокавая тэрапія з пагрозамі вырашэння кадравых пытанняў. І, падаецца, стрэлачнікі сапраўды хутка знойдуцца.

Былі прынятыя і глабальныя рашэнні. Да прыкладу, забаронена вывозіць з вобласці малако і мяса ў неапрацаваным выглядзе. За дзесяць месяцаў 2001 г. калгасы і саўгасы Віцебшчыны прадалі расіянам 11 тысяч тон малака, нанесшы такім чынам страты мясцоваму бюджэту. Асабліва вызначыліся ў гэтым накірунку памежныя з Расіяй Віцебскі, Аршанскі і Лёзненскі раёны. І, трэба думаць, не ад добрага жыцця. Летнія месяцы з больш-менш прыстойнымі надоямі — адзіны час, калі людзі, што працуюць на ферме, маюць магчымасць атрымаць грошы, якія не сорамна прынесці дадому. І, зразумела, кожны кіраўнік гаспадаркі імкнецца збыць сваю прадукцыю з найбольшым для сябе прыбыткам. Зараз магчымасці выбару ў іх не будзе. Пра эфектыўнасць калгасна-саўгаснай прыгоннай сістэмы ў цэлым пытанне на нарадзе, вядома, не ставілася. Забараніць значна прасцей, чым дазволіць чалавеку па-гаспадарску распараджацца вынікамі сваёй працы.

Крыху цяжэй, магчыма, будзе прасачыць за дзейнасцю прадпрымальнікаў, якія ўжо не першы месяц, наведваючыся ў вёскі, скупаюць там жывёлу, каб не без прыбытку для сябе перапрадаць не на расейскія мясакамбінаты. Яны, вядома ж, дакладных лічбаў пра маштабы сваёй дзейнасці ў аблвыканкам не падалі, і велічыня нанесенай імі харчовай прамысловасці Віцебшчыны шкоды пакуль не акрэсленая.

Калі мяса і малако з вобласці забаронена вывозіць, то гарэлку — увозіць. І зусім не ад вялікага клопату пра здаровы лад жыцця віцяблянаў. Проста апошнім часам гэтыя самыя пераборлівыя віцябляне чамусь не жадаюць хлябтаць прадукцыю мясцовага лікёра-гарэлачнага прадпрыемства, аддаючы перавагу пляшкам, разлітым у іншых рэгіёнах. І сваёй пераборлівасцю зноў-такі робяць вялікую шкоду абласному бюджэту, для якога, як і для бюджэту ўсёй краіны, гарэлка з'яўляецца адной з самых шчодрых крыніц прыбытку. Прымусіць лікёра-гарэлачны завод за два месяцы пачаць выпуск больш прывабнай прадукцыі — цяжка, прасцей не пускаць на сваю тэрыторыю канкурэнтаў. Так што, шаноўныя чытачы, піце сабе на здароўе гарэлачку, але толькі тутэйшай вытворчасці...

Паколькі гарэлка — не адзіны неканкурэнтназдольны айчынны выраб, то лагічна было б забараніць, скажам, продаж на віцебскіх рынках шматлікіх спажывецкіх тавараў заменай, пераважна кітайскай, вытворчасці. Што ж, пажывём — пабачым...

Бліжэйшыя ж два месяцы абяцаюць вялікія здзяйсненні на шляху выканання «важнейшых параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця вобласці за 2001 год».

**Валянцін ПОНТУС**
**Сабіна РАДЗЬКО**

ІМПРЭЗА

# 13-ты не будзе апошнім

**Фестываль сучаснай харэграфіі адбудзецца, нягледзячы на ўсе складанасці.**

За месяц да пачатку Міністэрства культуры зняло з сябе ўсялякія фінансавыя абавязкі перад надыходзячым 14-м Міжнародным фестывалем сучаснай харэграфіі. Намеснік міністра Уладзімір Рылатка прапанаваў у гэтым годзе зняць фестываль альбо ў крайнім выпадку перанесці яго на кастрычнік, што абсалютна непрымальна. У тэлефоннай размове з дырэктарам фестывалю Марынай Раманоўскай ён патлумачыў гэтае непрыемнае рашэнне складаным эканамічным становішчам у краіне і, у першую чаргу, у культуры. Грошай няма. Адзіныя выплаты — зарплата супрацоўнікам. Прагучала версія, што ўсе грошы пайшлі на правядзенне «Славянскага базару».

Тым не менш, Фестываль сучаснай харэграфіі адбудзецца. Зараз арганізатары фестывалю прыкладаюць тытанічныя намаганні, бо за два тыдні трэба зрабіць тое, што планавалася ажыццявіць за два месяцы. Некалькі дзён таму, хоць і са значным спазненнем, дасланыя афіцыйныя запрашэнні калектывам, што прайшлі адбор. З-за фінансавых праблем давялося істотна скараціць гасцявую праграму, адмовіцца ад некалькіх праектаў. У якасці спонсараў выступаюць: «Шварцкопф», «Белвест» і цэлы шэраг беларускіх прадпрыемстваў. Пермскі дзяржаўны тэатр «Балет Яўгенія Панфілава» нечакана таксама апынуўся ў ролі спонсара.

У конкурсе возьме ўдзел 21 танцавальны калектыў. Геаграфія ўдзельнікаў самая шырокая: Расія, Беларусь, Украіна, Эстонія, Літва, Польшча, Аўстрыя, Швецыя, Кітай, Японія і маленькая Мальта.

Пакуль што няма дакладнай акрэсленасці з фінансаваннем 14-га Міжнароднага фестывалю сучаснай харэграфіі. Але ж 13-ты не стаў апошнім.

**Валянцін ПОНТУС**



ГІСТОРЫЯ

# Память по пятнадцать дойчмарок

**Немецкие медальоны находят, но они никому не нужны**

О теме немецких захоронений писали много и часто. Некоторые материалы были умильно-слащавыми, кое-какие — жестко-негативными. Впрочем, ни один из них не был лживым. Суровая правда войны говорила каждой строкой, кричала и взывала каждой буквой. Правда и то, о чем вы прочтете сегодня.

Шел 1944-й год. Красная армия стремительно развивала наступление на запад. Немецкие части часто попадали в окружение. То тут, то там образовывались так называемые котлы... Один из них образовался под Витебском. Солдаты, обессилевшие и деморализованные, выбирались из окружения кто как мог. Группа из восьми человек шла всю ночь и к утру вышла к деревне Куковячино. Тут их и заметили местные жители. Солдаты были без оружия, одеты кто во что. Но ни это, ни женские платки и крики: «Не стреляйте, мы русские солдаты!» не остановили ярость натерпевшихся от оккупантов крестьян. Они безжалостно убивали беспомощных немцев, добивая вилами. Трупы прикопали тут же в подвернувшейся воронке...

Прошло пятьдесят с лишним лет. Хозяин одного из сотен дачных куковяченских участков как-то заметил, что местные пацаны играют в футбол странным мячом. Присмотрелся — оказалось, что «футболисты» весело гоняют по полянке... человеческий череп. Он его отнял, прекратив кощунственную игру. Расспросил, где нашли. Только вынул несколько лопат земли на том месте, которое указали ребята, как из земли показались человеческие кости. Там же нашлись и солдатские жетоны, штык от немецкой винтовки. Александр (назовем его так) аккуратно собрал останки в целлофановый мешок и прикопал находку неподалеку. Расспросил местных старожилов, и они вспомнили этот случай из далекого военного прошлого.

По найденным жетонам Александр решил установить, кого же приняла куковяченская земля в 44-м. Знакомые поисковики сказали, что дело это бесперспективное. Мало того — бессмысленное и никому не нужное. Некто «следопыт» Валера поделился с ним своей историей. Валера нашел останки вместе с жетонами году в 94-м. Написал в немецкое посольство. Оттуда пришел ответ, напоминающий обычную бюрократическую отписку: «...Мы хотели бы, чтобы все опознавательные знаки в оригинале вы отправили в посольство Германии... Мы просим вас пока человеческие останки захоронить на местном кладбище, зарисовать это место и эти документы предоставить нам... Мы благодарим вас за ваши усилия в этом гуманном деле. С сердечным приветом...»

Тут стоит оговориться, что за найденные солдатские останки с указанием конкретного места гибели и Александр, и Валера надеялись получить хоть какое-то материальное вознаграждение. Но немцы оказались прижимистыми и отписывали, что, к сожалению, не располагают финансовыми средствами. Тогда обладатели информации пошли другим путем. Прочитав в местной газете объявление о скупке трофейных вещей, они позвонили по указанному телефону, и мужской голос согласился купить жетоны по 3-4 тысячи белорусских рублей. В общем, плюнули наши герои на эту идею, и теперь, когда кто-нибудь рассказывает о том, что на днях приезжали из Твери «купцы за жетонами» и платили за каждый по пять долларов, только смеются рассказчику в лицо.

Впрочем, дыма без огня не бывает. Нет-нет, да и проносится слух: мол, в Смоленске за жетон Вермахта на оптовом рынке дают 15 дойчмарок. Несведущий народ погудит да затихнет. А искушенные опять-таки посмеются...

Охота на военные раритеты тем не менее продолжается. И этой лихорадке в погоне за призраком обогащения подвержены не только желторотые юнцы, но, как показывает жизнь, и люди весьма почтенного возраста. Как-то случилось мне побывать во время командировки у знакомых стариков. Было это в глубинке Городокского района. Еще подходя к подворью, по каким-то неуловимым приметам поняла: что-то изменилось. Присмотрелся внимательнее: у собаки вместо немецкой каски, служившей долгие годы ей емкостью для пищи — помятая кастрюля. Дальше — больше. Длинный шест с прибитой к нему такой же каской, используемый в ассенизаторских нуждах, тоже куда-то запропал. Поинтересовался у хозяина, и в ответ услышал такое, от чего едва не выпал в осадок. Где-то дедуля прослышал, что за железный немецкий шлем дают аж две тысячи канадских долларов! Почему канадских, он не знал, но каску вымыл, смазал и припрятал на чердаке.

Можно бы посмеяться, но что-то не смешно. Кто-то действительно делает на трофейных вещах времен второй мировой войны неплохой бизнес. Солдатские жетоны играют в нем роль мелкой разменной монеты. Ими дают сдачу. Тем самым продавая память воинов. Лицемерно крича на каждом углу о её бессмертии.

**Валентин ПОНТУС,**
**фото автора**




**Жетоны немецких солдат, захороненных у деревни Куковячино**

## ПАНЯДЗЕЛАК, 19 ЛІСТАПАДА

### ОРТ
15.00 Т/с «Вечный зов».
16.00 Большая стирка.
17.00 Новости.
17.25 «С легким паром!»
18.00 Жди меня.
19.00 «Кто хочет стать миллионером?» Телеигра.
20.00 Время.
20.35 Х/ф «Фаталисты» (Россия, 2001). 1-я серия.
21.30 Х/ф «Когда мы были королями».
22.30 Ночное «Время».
23.00 «На футболе».
23.30 «Ночная смена».

### РТР
07.00, 8.00, 10.00,16.00, 19.00 Вести.
07.15 Экспертиза РТР.
07.30 Москва - Минск.
07.50 Вести - Москва.
08.15 Дональд Сазерленд в остросюжетном фильме «Взаперти» (США, 1989).
10.30 Т/с «Санта-Барбара».
16.30 Б.Щербаков в комедии «Когда все свои» (1998).
18.00 Т/с «Московские окна».
19.35 Вести - Москва.
19.55 Детектив «Пуаро Агаты Кристи. Смерть в облаках» (Великобритания, 1994).
22.00 Вести + Подробности.
22.30 Вести - Москва.
22.45 Дежурная часть.
23.00 М.Могилевская и С.Газаров в детективе «Гладиатор по найму» (1993).
00.45 Прогноз погоды.

### КУЛЬТУРА
09.00 А.Генис. Письма из Америки.
09.40 «Два слова в письме». Док. фильм.
10.35 Сферы. Международное обозрение.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Новости культуры.
11.45 Х\ф «Анна Каренина» («Мосфильм», 1967). 1-я часть.
12.55 Телефестиваль «Разум: XXI век» (г. Томск).
13.30 Вместе с Фафалей.
13.45 М/ф «Переменка».
14.15 Архитектурная галерея.
14.30 «Осенние портреты». Ю.Соломин.
15.10 Кино - детям. «Готовы или нет».
15.40 «Наука и жизнь». Док. фильм.
16.05 Культура вне границ.
16.30 «Мир авиации». Тележурнал.
17.00 Археология. «Тайна острова Пасхи».
17.50 «Мой Эрмитаж».
18.15 Т/с «Возвращение в Брайдсхед» (Великобритания, 1981). 1-я серия.
19.15 «В движении. Народный театр танца». Док. фильм.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
19.55 Ф.Брукнер. «Наполеон I».
22.30 От киноавангарда к видеоарту.
23.20 Программа передач.

### НТВ
05.00, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 9.00,11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00, 23.30 Сегодня.
05.10, 6.20, 13.20, 17.40 Криминал.
05.20, 7.15, 13.25 Впрок.
05.35, 6.40, 13.45 Афиша.
05.40, 7.25 Наши любимые животные.
05.45, 6.45, 7.50 Пять минут с Новоженовым.
05.50, 6.50 Большие деньги.
06.35, 7.40 Карданный вал.
07.55 Криминал. «Чистосердечное признание».
08.25 Служба спасения.
09.25 Намедни.
10.40 Куклы.
11.25 Т/с «Полицейские».
13.50 Т/с «Графиня де Монсоро».
15.30 Т/с «Салон красоты».
16.30 Т/с «День рождения буржуя-2».
18.35 Герой дня.
18.55 Т/с «День рождения буржуя-2».
20.00 Алчность.
21.55 Т.Васильева и Л.Полищук в комедии «Бабник-2».
23.55 Гордон.

### БТ
06.00 Новости.
06.10 Доброе утро, Беларусь!
07.00 Новости.
07.10 Доброе утро, Беларусь!
08.00 Новости.
08.10 Доброе утро, Беларусь!
09.00 Новости.
09.10 Т/с «Страсти».
10.00 «Русская песня». (В).
10.30 Телебарометр. Прогноз погоды.
11.00 Т/с «Человек моря».
12.00 Новости.
12.15 «Пой, душа!» Праздник «Дожинки».
12.40 «Жизнь, собранная из мгновений». Док. фильм к 75-летию с дня открытия БГАТ им. Я.Коласа.
13.05 Х/ф «Тени исчезают в полдень» («Мосфильм»). 7-я серия, закл.
14.10 Док. сериал «Сокровища мировой культуры».
15.00 Новости.
15.15 Детективный сериал «Жюли Леско» (Франция).
16.45 «Школа здоровья».
17.40 «Витебский вестник».
18.00 Новости.
18.20 Зона Икс.
18.30 Х/ф «Поле битвы - Земля».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Т/с «Человек моря».
22.30 Стадион.
22.55 Планета «АРТ».
23.25 Новости.
23.40 Ш.Фенн в психологическом триллере «Скольжение».

### 6ТВК
07.00 «Витебский вестник».
07.15 Погода.
07.20 Гороскоп.
07.25 Мультфильм.
07.35 «Советы психолога».
07.40 «Криминальные истории».
07.45 Курсы валют.
07.55 «Экология и мы».
08.00 «По сводкам инф. агентств».
08.15 «День в истории».
08.20 «Именины».
08.30 Т/с «Зачарованные».
09.30 Х/ф «Поезд до Бруклина».
18.00 «Желаю Вам».
19.00 «Гость».
19.15 «Отдел кадров».
19.20 «Пригласительный билет».
19.30 «АРТ-Клуб».
19.45 «Витебский вестник».
20.00 Комедия «Денежная яма».
22.30 Т/с «Чудеса науки».
23.00 1/8 кубка РБ по волейболу. «Марко-Динамо 01» - РУОР (Минск).
23.50 Программа.

### СКИФ
07.00 «Телетеремок».
07.15 Музыка.
07.30 Т/с «Мурашки» (США).
08.00 «24». Информационная программа.
08.15 «Метро».
08.30 «Мир спорта глазами «Жиллетт».
09.00 Комедия «Дорогие американцы» (США).
11.30 Телемагазин.
12.00 Программа «24».
12.15 «Случайный свидетель».
12.45 Реклама.
12.50 Музыка на канале.
13.00 ТВ «Полония».
17.15 «Телетеремок».
17.30 «Голос верующего».
18.00 Муз. поздравления.
19.30 Х/ф «Осьминог» (США).
21.40 Т/с «Убойная сила-3».

## АЎТОРАК, 20 ЛІСТАПАДА

### ОРТ
08.00, 11.00, 17.00 Новости.
08.15 Т/с «Земля любви».
09.15 Х/ф «Фаталисты». 1-я серия.
10.10 «С легким паром!»
10.35 «Ералаш».
10.50 Библиомания.
15.00 Т/с «Вечный зов».
16.00 Большая стирка.
17.25 Комедийный сериал «Ускоренная помощь».
18.00 Т/с «Земля любви».
19.00 «Слабое звено». Игровое шоу.
20.00 Время.
20.40 Х/ф «Фаталисты». 2-я серия.
21.40 Кремль-9. «Технология визита».
22.30 Ночное «Время».
23.00 «Цивилизация».
23.30 «Ночная смена».

### РТР
08.00, 10.00, 16.00,19.00 Вести.
08.15 Т/с «Московские окна».
10.30 Т/с «Санта-Барбара».
16.30 Комедия «Шкура» (1991).
18.00 Т/с «Московские окна».
19.35 Вести — Москва.
19.55 Детектив «Кобра. Замороженный транзит».
22.00 Вести + Подробности.
22.30 Вести — Москва.
22.45 Фильм Люка Бессона «Выход» (Франция, 2000).
00.55 Прогноз погоды.

### КУЛЬТУРА
09.10 Золотой пьедестал. Лев Яшин.
09.40 Док. экран. «Лени Рифеншталь: гений и злодейство».
10.35 Дом актера.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Новости культуры.
11.45 Х/ф «Анна Каренина». 2-я часть.
12.50 Телефестиваль «Разум: XXI век» (г. Томск).
13.30 Вместе с Фафалей.
13.45 Дело житейское.
14.15 Власть факта.
14.30 Сценограмма. «Балтийский дом».
15.10 Кино - детям. «Готовы или нет».
15.35 Док. экран. «Лени Рифеншталь: гений и злодейство».
16.30 «Российский курьер». Онега (Архангельская область).
17.00 Археология. «Апачи».
17.50 Дворцовые тайны. «Особняк Варгунина».
18.15 Т/с «Возвращение в Брайдсхед».
19.15 Портреты художников.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 К 100-летию нобелевских премий. «Тринадцать плюс». Академик И.Франк.
20.40 Х/ф «Большая семья».
22.30 «Апокриф».
23.20 Программа передач.

### НТВ
05.00, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 9.00,11.00, 13.00,15.00, 18.00, 21.05 Сегодня.
05.15, 6.20, 13.25, 17.40 Криминал.
05.20, 7.15, 13.40 Впрок.
05.35, 6.40, 13.45 Афиша.
05.40, 7.25 Наши любимые животные.
05.45, 6.45 Пять минут с Новоженовым.
05.50, 6.50 Большие деньги.
06.35 Карданный вал.
07.35 Комедия «Бабник-2».
09.25 Алчность.
10.10 Шоу Елены Степаненко.
11.20 Т/с «Полицейские».
13.55 Т/с «Графиня де Монсоро».
15.30 Т/с «Салон красоты».
16.35 Т/с «День рождения буржуя-2».
18.35 Герой дня.
18.55 1/16 финала Кубка УЕФА. «Хапоэль» (Тель-Авив, Израиль) - «Локомотив» (Москва).
21.35 Футбол. Лига Чемпионов. «Бавария» (Германия) - «Манчестер юнайтед» (Англия).
23.50 Третий тайм.
00.50-2.30 Футбол. Лига Чемпионов. «Ливерпуль» (Англия) - «Барселона» (Испания).

### БТ
06.00 Новости.
06.10 Доброе утро, Беларусь!
07.00 Новости.
07.10 Доброе утро, Беларусь!
08.00 Новости.
08.10 Доброе утро, Беларусь!
09.00 Новости.
09.15 Т/с «Страсти».
10.00 «Примите к сведению».
10.15 Мультфильм.
10.30 «Маленькие Эйнштейны».
11.00 Т/с «Человек моря».
12.00 Новости.
12.15 Добрый день, Беларусь!
13.00 Х/ф «Угрюм-река» (Свердловская к/ст). 1-я серия.
14.25 «Истоки».
15.00 Новости.
15.15 «Дэнни, расскажи мне историю». Док. сериал (МФК).
15.25 М/с «Сказки отца Кастора-2». (МФК). 2-я серия.
15.40 «Маленькие Эйнштейны».
16.10 «Пять чудес».
16.20 «5 х 5».
17.00 «Театральный сезон».
17.40 «Витебский вестник».
18.00 Новости.
18.20 Зона Икс.
18.30 «Москва - Минск».
18.45 Х/ф «Вечный». (МФК).
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Т/с «Человек моря».
22.30 Спорт-курьер.
22.40 Х/ф «Четыре танкиста и собака». (Польша). 1-я серия.
23.35 Новоти.
23.50 Ток-шоу «Дела житейские».
00.15 Хоккей. Чемпионат ВЕХЛ. «Керамин-Минск» - «Гомель».

### 6ТВК
07.00 «Витебский вестник».
07.15 Погода.
07.20 Гороскоп.
07.25 Мультфильм.
07.35 «Криминальные истории».
07.40 «К сведению».
07.45 Курсы валют.
07.50 Подиум «Белой Амфоры».
07.55 «По сводкам инф. агентств».
08.15 «День в истории».
08.20 «Именины».
08.30 Т/с «Зачарованные».
18.00 «Желаю Вам...»
19.05 «Гость».
19.25 «Закон и порядок».
19.35 «Спортинформ».
19.45 «Витебский вестник».
20.00 Комедия «Непристойное оружие» (США, 1980).
22.30 Т/с «Чудеса науки».
23.00 Чемпионат ВЕХЛ ХК «Витебск»—«Донбасс» (Донецк).
23.50 Программа передач.

### СКИФ
07.00 «Телетеремок».
07.15 Музыка на канале.
07.30 Т/с «Мурашки».
08.00 «24». Инф. программа.
08.15 «Телеспецназ».
08.30 Футбольный курьер.
09.00 Х/ф «Осьминог» (США).
11.30 Телемагазин.
12.00 «24». Инф. программа.
12.15 «Случайный свидетель».
12.50 Музыка на канале.
13.00 ТВ «Полония».
17.15 «Телетеремок».
17.30 «Голос верующего».
18.00 НОВОСТИ.
18.15 Муз. поздравления.
19.30 Х/ф «Аттила, предводитель гуннов» (США). 1-я серия.
21.40 Т/с «Убойная сила-3».
23.00 НОВОСТИ.

## СЕРАДА, 21 ЛІСТАПАДА

### ОРТ
08.00, 11.00, 17.00 Новости.
08.15 Т/с «Земля любви».
09.15 Х/ф «Фаталисты». 2-я серия.
10.15 Т/с «Ускоренная помощь».
10.45 «Ералаш».
10.50 Библиомания.
15.00 Т/с «Вечный зов».
16.00 Большая стирка.
17.25 Смехопанорама.
18.00 Т/с «Земля любви».
19.00 Последний герой.
20.00 Время.
20.40 Х/ф «Фаталисты». 3-я серия.
21.40 Как это было. «Дело спортсменов. 1936 год».
22.30 Ночное «Время».
23.00 «Тихий дом».
23.30 «Ночная смена» Д.Диброва.

### РТР
08.00, 10.00, 16.00,19.00 Вести.
08.15 Т/с «Московские окна».
10.30 Т/с «Санта-Барбара».
16.30 Комедия «Ультиматум».
18.00 Т/с «Московские окна».
19.35 Вести — Москва.
19.55 Детектива «Кобра. Груз». 1-я часть.
21.25 «Откройте, милиция!».
22.00 Вести + Подробности.
22.30 Вести — Москва.
22.45 Союз бывших. Док. фильм «Азербайджан».
23.45 Х/ф «Смертельная гонка».
01.30 Прогноз погоды.

### КУЛЬТУРА
09.10 Ток-шоу «Наобум».
09.40 «Путешествие в Малин», «Звонок из России». Док. фильмы.
10.30 «Вся его жизнь - кинематограф». М.Донской.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Новости культуры.
11.45 Х/ф «Странная женщина» («Мосфильм», 1977). 1-я серия.
13.05 Телефестиваль «Разум: XXI век» (г. Томск).
13.30 Вместе с Фафалей.
13.45 Пути Господни... Московский старец Алексий Мечёв.
14.15 Чем живет Россия.
14.30 Блистательный Санкт-Петербург. «Блокада».
15.10 Кино - детям. «Готовы или нет».
15.35 «Путешествие в Малин», «Звонок из России». Док. фильмы.
16.30 Машины времени. «Робот плюс робот».
17.00 Археология. «Борьба за Ангкор».
17.50 Кто мы? «Жили-были славяне». Передача 3-я.
18.15 Т/с «Возвращение в Брайдсхед».
19.15 Портреты художников.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 К 100-летию нобелевских премий. «Тринадцать плюс». Академик Л.Ландау.
20.45 С.Злотников. «Уходил старик от старухи». Спектакль.
22.30 Партитуры не горят.
23.20 Программа передач.

### НТВ
05.00, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
05.10, 6.15, 13.20, 17.35 Криминал.
05.20, 7.15 Впрок.
05.35, 6.40, 7.55, 13.35 Афиша.
05.40, 6.20, 7.20 Наши любимые животные.
05.45, 6.45, 7.40 Пять минут с Новоженовым.
05.50, 6.50, 7.50, 8.05 Большие деньги.
06.35, 7.35 Карданный вал.
08.30 Без рецепта.
09.20 Алчность.
09.55 М/ф «Светлячок».
10.10 Квартирный вопрос.
10.35 Экологическая программа «Среда».
11.20 М/ф «Светлячок».
11.30 Х/ф «На муромской дорожке».
13.40 Х/ф «Огненный дракон».
15.30 Х/ф «Седьмая мишень».
18.35 Герой дня.
18.55 Т/с «День рождения буржуя-2», закл. серия.
20.00 Алчность.
21.35 Футбол. Лига Чемпионов. «Ювентус» (Италия) - «Байер» (Леверкузен, Германия).
23.50 Третий тайм.
00.50 Дневник Недели высокой моды.
01.05-2.45 Футбол. Лига Чемпионов. «Депортиво» (Испания) - «Арсенал» (Англия).

### БТ
06.00 Новости.
06.10 Доброе утро, Беларусь!
07.00 Новости.
07.10 Доброе утро, Беларусь!
08.00 Новости.
08.10 Доброе утро, Беларусь!
09.00 Новости.
09.15 Т/с «Страсти».
10.00 «Музыкальные встречи».
10.30 «Маленькие Эйнштейны».
11.00 Т/с «Человек моря».
12.00 Новости.
12.15 Добрый день, Беларусь!
13.00 Х/ф «Угрюм-река». 2-я серия.
14.30 Время местное.
15.00 Новости.
15.15 «Дэнни, расскажи мне историю». Док. сериал (МФК).
15.25 М/с «Сказки отца Кастора-2».
15.40 «Маленькие Эйнштейны».
16.10 «Пять чудес».
16.20 «5 х 5».
17.00 «Центр внимания».
17.40 «Витебский вестник».
18.00 Новости.
18.20 Зона Икс.
18.30 Союзное вече.
18.50 Х/ф «Винсент, Франсуа, Поль и др.».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама. Информационный канал.
21.40 Т/с «Человек моря».
22.30 Спорт-курьер.
22.40 Х/ф «Четыре танкиста и собака». 2-я серия.
23.35 Новости.
23.50 Криминальное досье.
00.15 «Встреча в Троицком».

### 6ТВК
07.00 Программа передач.
07.00 «Витебский вестник».
07.15 Погода.
07.20 Гороскоп.
07.25 Мультфильм.
07.35 «Криминальные истории».
07.40 «Юридическая справка».
07.50 Курсы валют.
07.55 «Город мастеров».
08.00 «По сводкам инф. агентств».
08.15 «День в истории».
08.20 «Именины».
08.30 Т/с «Зачарованные».
18.00 «Желаю Вам...»
19.05 «Гость».
19.25 «Дачник».
19.35 «К духовным истокам».
19.45 «Витебский вестник».
20.00 Х/ф «Безумие среднего возраста».
22.30 Т/с «Чудеса науки».
23.00 «Желаю Вам...»
23.45 Программа передач.

### СКИФ
07.00 «Телетеремок».
07.15 НОВОСТИ.
07.30 Т/с «Мурашки» (США).
08.00 «24». Инф. программа.
08.15 «Телеспецназ».
08.30 «Военная тайна».
09.00 Х/ф «Аттила, предводитель гуннов» (США), 1-я серия.
11.10 «Параллели».
11.30 Телемагазин.
12.00 «24». Инф. программа.
12.15 «Случайный свидетель».
12.50 Музыка на телеканале.
13.00 ТВ «Полония».
17.15 «Телетеремок».
17.30 «Голос верующего».
18.00 Муз. поздравления.
19.00 Диалог в прямом эфире. Тел. 36-38-06.
19.30 Х/ф «Аттила, предводитель гуннов» (США), 2-я серия.
21.40 Т/с «Убойная сила-3».

